# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 34 (652) ГОД XIII 25 ЖНІЎНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.

### 23 ЖНІЎНЯ — ДЗЕНЬ АВІЯЦЫІ




Вядучы пілот Беласточчыны Багдан Сініца (справа) у час палётаў з малодшымі калегамі. Фота В. Гжэгорчык

# Супольная радзіма - супольныя заданні

**ЗЫГМУНТ АРЛОЎСКІ**

**Дырэктар грамадска - адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў.**

На працягу 24 гадоў існавання народнай улады, пад кіраўніцтвам нашай партыі адбыліся ў нашай краіне вялікія грамадска - гаспадарчыя перамены. На працягу гэтага кароткага — калі мерыць у маштабе гісторыі — перыяду наш народ ва ўмовах новага ладу асягнуў вынікі, якія ў ліпеньскія дні 1944 года маглі здавацца толькі дарэмнымі марамі. Змаглі мы не толькі зацерці сляды руінаў і папялішчаў, якія пакінула нам вайна, але і ператварыць Польшчу з адсталай сельскагаспадарчай краіны ў развітую прамыслова - сельскагаспадарчую краіну, якая займае пачэснае месца сярод дзяржаў Еўропы і набліжаецца хуткімі крокамі да іх цеснага авангарда.

Санацыйная Польшча гаспадарча адсталая, амаль што паўкалонія імперыялістычных дзяржаў, якую раздзіралі класавыя і нацыянальныя супярэчнасці, і Народная Польшча — краіна развіваючайся, вялікай прамысловасці, мадэрнізаванай сельскай гаспадаркі, суцэльны сацыялістычны грамадска- палітычны арганізм, моцнае звяно ў сістэме сацыялістычных дзяржаў, вось дзве як жа ж розныя дзяржавы міма кароткага гістарычнага перыяду, які іх дзеліць.

Дыяметральна іншай з'яўляецца таксама нацыянальная палітыка Народнай Польшчы. Наша дзяржава, сфармавана ў гістарычна і этнічна справядлівых граніцах, міма невялікага працэнта нацыянальна няпольскага насельніцтва (каля 1,3% насельніцтва краіны) прысвячала і прысвячае ў сваёй палітыцы шмат увагі нацыянальным меншасцям.

У аснове нацыянальнай палітыкі народнай улады знаходзяцца ленінскія прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму, прынцыпы роўнасці і пашаны правоў кожнага грамадзяніна без розніцы веравызнання ці нацыянальнасці.

Ленінская нацыянальная палітыка нашай партыі накрэслівае напрамкі дзейнасці ўсім органам дзяржаўнай улады.

I

Разам з узростам агульнага ўзроўню гаспадаркі і культуры ўсяго грамадства ПНР адбылося рашучае паляпшэнне ўзроўню жыцця, культуры і асветы ўсіх нацыянальных асяроддзяў.

У шматлікіх раёнах краіны, дзе пражывае украінскае, беларускае, літоўскае, славацкае і чэшскае насельніцтва, узрост сельскай гаспадаркі вышэйшы ад сярэдняга. Цешаць нас факты, што украінскія, літоўскія, беларускія і славацкія сяляне ў многіх выпадках належаць да перадавых гаспадароў, з'яўляюцца актыўнымі членамі сельскагаспадарчых гуртkоў, прымяняюць сучасныя формы апрацоўкі зямлі, тэрмінова выконваюць свае абавязацельствы перад дзяржавай, актыўна ўдзельнічаюць у рэалізацыі грамадскіх чынаў і г.д.

Узраслі рады інтэлігенцыі, выводзячайся з нацыянальных меншасцей. Моладзь мае адкрытыя дзверы ва ўсе сярэднія і вышэйшыя школы.

Сістэматычна ўзрастае ўдзел прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей і ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Напрыклад, у радах нарадовых усіх ступеней маем звыш 2,5 тыс. радных спасярод паасобных нацыянальных асяроддзяў, расце актыўнасць грамадскіх дзеячаў заангажаваных у працах камісій рад нарадовых, грамадскіх і гаспадарчых арганізацыях.

Незалежна ад таго наша дзяржава стварыла поўныя ўмовы і многа выдаткоўвае грошай на развіццё грамадска-культурнай дзейнасці нацыянальных меншасцей і іх таварыстваў, а асабліва: — арганізацыю і ўтрыманне нацыянальнага школьніцтва, выдавецтва і нацыянальную прэсу, дзейнасць нацыянальных грамадска - культурных таварыстваў.

Дзяржаўныя выдаткі для гэтай мэты сягаюць дзесяткаў мільёнаў злотых, з чаго 6,5 мільёна прызначаецца выключна на статутовую дзейнасць нацыянальных таварыстваў.

II

Асаблівая роля ў нацыянальнай палітыцы партыі і ўрада ПНР прыпадае нацыянальным таварыствам.

Інспіруючы і арганізацыйна забяспечваючы дзейнасць, якая мае на мэце падтрымоўванне і распаўсюджванне перадавых, гістарычных і культурных нацыянальных традыцый, народнага фальклору, дасягненняў сучаснай культуры —нацыянальнай па форме, а сацыялістычнай па зместу — паглыб-

(Працяг на стар. 4)




Рыгор Семашкевіч

## ЗЯЗЮЛЯ

На кліч зязюлі расквітнее сад.
Ку-ку! Нібы па залатой драбіцы,
Па гуках тых як хораша назад
Спусціцца мне, у далечы прабіцца.

Адзін бясплатны на зямлі прарок —
Ты, шэрая, як часам шчасце наша.
Бяздомніца! І толькі галасок
У сэрцы гнездзіцца. А мне не страшна.

Дзень добры! Кліча... ледзь зара дрыжыць.
І ноччу кліча. Мы даўно паснулі.
Лягчэй вясну без хлеба перажыць,
Чым без зязюлі.

(З кнігі «Лесьнічоўка»)






Па вясковых вуліцах нясецца гоман абмалотачных агрэгатаў. Плыве залаты ручай хлеба. Штораз часцей гаспадары возяць жыта не ў клуню, ці ў стог, а проста з поля пад малатарню. Так наладзілі сабе працу ў Паўлах, Дубічах, Райску, Жуках, Сухавольцах і ў іншых вёсках. Разыходзіцца пра тое, каб новы хлеб як найхутчэй трапіў у дзяржаўныя склады.

На шляху залатой гэтай ракі хлеба ад гаспадара да дзяржаўнага склада асабліва важным звяном з'яўляецца скупачны пункт спулдзельні сялянскай самапомачы.

Як гэтыя справы прадстаўляюцца ў Кляшчэлях?

Адказным за арганізацыю скупкі ў кляшчэлеўскім ГС-е з'яўляецца намеснік старшыні Васіль Качко. Ён нам сказаў, што ў раёне дзейнасці кляшчэлеўскага ГС-у знаходзіцца аж 35 вёсак. Гэта многа, вельмі многа. Каб дабрацца са збожжам у Кляшчэлі, гаспадары, напрыклад, з вёскі Чэхі Арлянскія мусяць ехаць аж 17 кіламетраў. А з вёскі Старына — 16 кіламетраў. Такая паездка займае гаспадару цэлы дзень.

—Што робіць ГС, — пытаю старшыню Качко, — каб аблегчыць сялянам пастаўку збожжа?

— У гэтым годзе за суму звыш паўтара мільёна злотых пабудавалі мы прасторны прыёмачны склад. Ён абсталяваны неабходнай тэхнікай, якая аблегчыць працу і сялянам, і рабочым, якія прымаюць збожжа. Значыць, селянін будзе хутчэй і больш спраўна абслужаны. Затым за год пачнем пабудову склада на збожжа і штучныя ўгнаенні ў Дубічах Царкоўных. Ужо заказалі мы тэхнічную дакументацыю на гэты аб'ект. Каштаваць ён будзе 4 мільёны 600 тыс. зл. За два гады не будзе ў нашым раёне вёскі, жыхары якой мелі б да скупачнага пункта больш як 5—8 кіламетраў.

— Ці многа збожжа прадаюць тутэйшыя сяляне?

— У мінулых гадах скупоўвалі мы ў сярэднім па 1100 — 1200 тон, у гэтым годзе спадзяемся скупіць прынамсі 1800 тон збожжа. Да першага жніўня г.г. сяляне даставілі нам ужо амаль 80 тон новага хлеба. Першымі пастаўшчыкамі былі: Яўгеній Масковіч і Уладзімір Масальскі з Сухавольцаў і Марыя Пень з Тафілаўцаў. Кожны з іх прадаў па звыш 10 цэнтнераў збожжа. У гэтым годзе, калі гаспадар выбіраецца да нас са збожжам, дык грузіць фуру так, каб конь змог ледзь пацягнуць. Няма ўжо гаспадароў, якія з'яўляюцца на скупачным пункце з адным або двума мяшочкамі. Сярод сёлеташніх пастаўшчыкоў маем ужо таксама сельскагаспадарчыя гурткі з Кляшчэляў і Дубічаў Царкоўных. Яны супольна гаспадараць на дзяржаўнай зямлі. Кляшчэлеўскія гурткоўцы дабіліся высокага ўраджаю, жыта ў іх дало па 20 цэнтнераў з кожнага гектара.

— Ці часта сяляне скардзяцца на працаўнікоў пунктаў скупкі?

— Пісьмовых скаргаў мы не мелі. Часамі толькі ля вагі прыйшлося пачуць сачыстую сварку. Каб як найменш штосьці такое здаралася, увялі мы грамадскі кантроль прыёму збожжа ад сялян. Грамадскім кантралёрам з'яўляецца прадстаўнік сельскагаспадарчых гурткоў. Ён сочыць за тым, каб кладаўшчык, які прымае збожжа, правільна важыў і правільна ацэньваў працэнт яго вільготнасці, ён таксама першы разглядае прэтэнзіі сялян.

— Якія яшчэ меры прымяняеце, каб аблегчыць гаспадарам дастаўку збожжа дзяржаве?

— Калі гаспадар захоча нам прадаць адразу звыш 3-х тон збожжа, тады мы ўласным транспартам забіраем збожжа непасрэдна з панадворка гаспадара. У гэтым выпадку селянін за транспарт нічога не плаціць. Мы яму пазычаем мяшкі. Ён падрыхтуе збожжа. Мы пасылаем самаход і селянін не патрабуе траціць часу на перавозку збожжа на пункт скупкі.

Наваколле Кляшчэляў не залічваецца, на жаль, да найбольш ураджайных раёнаў Беласточчыны. Аднак і тут сяляне намагаюцца паменшыць збожжавы дэфіцыт нашай краіны. У мінулым годзе закантрактавалі яны 800 гектараў абсеяных зярністым хлебам. Свой плён гаспадары ацэньваюць на 17—18 цэнтнераў з аднаго гектара. На кляшчэлеўскіх пясках гэта нямала.

В. Рудчык

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### РЭЗАЛЮЦЫЯ САВЕТА БЯСПЕКІ

Савет Бяспекі ААН прыняў рэзалюцыю, у якой адзінагалосна асуджае ізраільскія вайсковыя крокі супраць Іарданіі. Адначасова рэзалюцыя перасцерагае, што ў выпадку панаўлення варожых актаў Савет Бяспекі прымсніць больш радыкальныя сродкі супраць агрэсара.

### КАГО ДЭМАКРАТЫ?

Канвенцыя дэмакратычнай партыі ЗША збярэцца ў канцы жніўня ў Чыкага. На ёй выбяруць кандыдата дэмакратаў на прэзідэнта ЗША. Галоўнымі кандыдатамі на кандыдата з'яўляюцца: цяперашні віцэ-прэзідэнт Гамфрэй і сенатар Макговерн. Як мы ўжо пісалі, кандыдатам на прэзідэнта ад рэпубліканаў з'яўляецца Ніксан.

### В'ЕТНАМ ЗМАГАЕЦЦА

Самыя моцныя атакі Нацыянальны фронт вызвалення Паўднёвага В'етнама вядзе ў Гуэ. Амерыканскі сакратар абароны Кліфорд сказаў, што ЗША не намераны спыняць бамбардзіроўку Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама. Сярод камандвання амерыканскага ў В'етнаме нарастае перакананне, што, каб у Паўднёвым В'етнаме правесці выбары, выйграў бы паўднёвав'етнамскі фронт Вызвалення.

### ІНТЭРСПУТНІК

Балгарыя, Венгрыя, Куба, Манголія, Польшча, Румынія, СССР і Чэхаславакія прадставілі генеральнаму Сакратару ААН супольна апрацаваны праект дагавору арганізавання міжнароднай сістэмы сувязі пры дапамозе штучных спадарожнікаў. Кіраванне справамі звязанымі з такой сістэмай прыняла б на сябе арганізацыя «Інтэрспутнік», якая паўстала б і дзейнічала б у рамах ААН.

Праект выклікаў зацікаўленне многіх дзяржаў і будзе прадстаўлены на 23 сесію ААН.

### АРЫШТЫ КАМУНІСТАЎ У ІНДАНЕЗІІ

Як паведамляе афіцыйнае інданезійскае агенцтва Антара, ва Усходняй Яве арыштавана каля 850 чалавек — членаў Камуністычнай партыі Інданезіі, якая цяпер забаронена. Сярод іх 6 членаў ЦК КПІ і некаторыя члены правінцыянальнага камітэта Усходняй Явы. Арыштаваны таксама старшыня жаночай арганізацыі КПІ «Гервані» Суконта.

### ТАЙФУН «ПОЛІ»

39 японскіх рыбакоў прапалі без вестак у ноч з 16 на 17 жніўня ў час тайфуну «Полі», які выбухнуў ля берагоў Японіі. Як падае з Токіо карэспандэнт агенцтва Асошыэйтэд Прэс, паводле даных паліцыі, у выніку тайфуна на востраве Кюсю адзін чалавек забіты і 26 паранена.

### ЗЛАЧЫНЦА

Суд у Гамбургу прыгаварыў да пажыццёвага турэмнага зняволення былога унтэр-штурмфюрэра СС Розенбаума, вінаватага ў забойстве 148 польскіх грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці. (вл)

## БССР

### ПОЛЬСКІЯ

У Мінскім палацы спорту адбылася выстаўка вырабаў польскіх фірмаў замежнага гандлю — «Метранэкс» і «Універсаль». Беларускія кліенты пазнаёміліся з разнастайнымі кантрольна-вымяральнымі і аптычнымі прыборамі, вылічальнай тэхнікай, лабараторным абсталяваннем, а таксама з рознымі таварамі шырокага ўжытку — радыёпрыёмнікамі, тэлевізарамі, магнітафонамі, вырабамі хатняга ўжытку, спартыўным інвентаром.

На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі выступіў міністр мясцовай прамысловасці Беларускай ССР Г. Семяніхін. Са словам у адказ выступіў генеральны дырэктар «Метранэксу» В. Габінскі.

### ПОЛІЭТЫЛЕНУ

На заводзе пластмасавых вырабаў у Барысаве здадзена ў эксплуатацыю два агрэгаты па выпуску гафрыраваных дрэнажных труб з поліэтылену. Да канца года будзе выпушчана для патрэб меліярацыі каля тысячы тон гэтай новай прадукцыі.

Як інфармуе дырэктар завода А. Куніцкі, ужо ў наступным годзе прадукцыя гэтых труб дасягне трох тысяч тон. Іх выраб у Беларусі пачаўся ўпершыню.

### «МУХАВЕЦ»

У саўгасе «Мухавец» каля Брэста пачалося будаўніцтва арашальнай сістэмы «Каменка». Пры дапамозе дажджавальных установак будзе арашацца стогектаравы масіў. Саўгас, які спецыялізуецца на гародніне, зможа вырошчваць высокія і ўстойлівыя ўраджаі гародніх культур.

Падобная сістэма будуецца і ў саўгасе «Чырвоны Сцяг», Баранавіцкага раёна, дзе арашацца будзе 370 гектараў гародаў.

### АЎТАМАТ

На Гомельскім чыгуначным вакзале ўстаноўлена паштовы аўтамат: хто хоча набыць білет апускае двухкапейкавую манету і атрымлівае спецыяльны бланк, на якім указвае, куды і ў які дзень хоча ехаць. Пасля гэтага білет дастаўляецца на дом.

Аўтамат гэты стварае не толькі зручнасць для пасажыраў, але дае магчымасць чыгуначнікам загадзя ўлічваць патрэбы ў цягніках на розных напрамках.

### ГАЗАВЫЯ

У вёсках Беларусі ўстанаўляецца газавыя пліты. Напрыклад, у Мядзельскім раёне ўстаноўлена ўжо каля 1.300 газавых пліт.

### АРТЫКУЛ

У «Літаратуры і мастацтве», органе Міністэрства культуры і Саюза пісьменнікаў БССР, 13 жніўня апублікавана артыкул польскага журналіста Рамана Высоцкага — **«На роўных правах».** Аўтар знаёміць беларускага савецкага чытача з дзейнасцю нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства і жыццём нашай нацыянальнай меншасці. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У ЗАБЖЫ

15 жніўня ў Забжы адбылася сустрэча партыйнага актыву Горнай Сілезіі і Басейна з экзекутывай Ваяводскага камітэта партыі ў Катавіцах, прысвечаная аналізе найважнейшых заданняў у перадз'ездаўскай кампаніі. У сустрэчы прыняло ўдзел дзве з паловай тысячы партыйных актывістаў. З прамоваю выступіў член Палітбюро ЦК партыі, I сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Катавіцах — Эдвард Герэк. Падкрэсліў ён, што XII Пленум ЦК паказаў, што з апошніх падзей партыя наша вышла ўзмоцненай, што ў ходзе прынцыпіяльнай барацьбы з рэвізіянізмам і іншымі неправідловасцямі ўзмоцнілася адзінства партыйных радоў. У далейшых частках сваёй прамовы Эдвард Герэк з асаблівым націскам падкрэсліў неабходнасць паляпшэння якасці і эфектыўнасці працы ва ўсіх галінах жыцця: у гаспадарцы, культуры, ідэалогіі, прапагандзе і выхаванні. Для гэтай мэты неабходная ў радах партыі прынцыповая, шчырая, сапраўды гаспадарская дыскусія. «Неабходна, — заявіў Эдвард Герэк, — выпалоць і выкараніць з нашага партыйнага жыцця ўсё тое, што ўчцівым людзям нярэдка замыкала рот, што казала ім — наперакор уласным перакананням — маўчаць або прытварацца, што не бачаць адмоўных працэсаў, памылковых рашэнняў, безадказнасці, злоўжыванняў і іншых адмоўных з'яў — страху перад тым, што нехта «разгневаецца», што нехта будзе «даткнуты», што гэты «нехта» — найчасцей стаяўшы ў грамадскім рангу вышэй скажа: «крытыкуючы мяне — крытыкуеш партыю і сацыялізм».

За стварэнне такой спрыяючай шчырай дыскусіі атмасферы адказнымі з'яўляюцца партарганізацыі.

### УЗ'ЯДНАННЕ

Наступіла ўз'яднанне дзвюх, дзейнічаючых дагэтуль аддзельна, арганізацый: Аб'яднання атэістаў і вольнадумцаў і Таварыства свецкай школы. Узнікла такім чынам новая арганізацыя: Таварыства ляіцкай культуры.

### З ГРУЗІІ

Па запрашэнню старшыні Рады Дзяржавы маршалка Мар'яна Спыхальскага прабываў у Польшчы старшыня прэзідыума Вышэйшага Савета Грузіі — Георгі Дзоцэнідзэ разам са сваёй жонкаю. Наведалі яны шэраг раёнаў краіны: поле бітвы пад Грунвальдам, Гданьск, Мальборк, Кракаў, Асвенцім, Тарнобжэг, Закапанэ.

### ЛЯЗО

Пад канец года ў крамах можна будзе купіць польскія лязо (жылетку) «Польсільвэр» (8 злотых штука), якая па якасці адпавядаць будзе найлепшым англійскім лязо.

### ПРАФЕСІЯ

Звыш 28 тысяч абітурыентаў сярэдніх школ здабывае прафесію ў паслятаматуральных эканамічных, тэхнічных і медыцынскіх школах. У гэтым годзе прымуць яны 18 тысяч новых вучняў. У 1970 годзе пасля рэарганізацыі школы гэтыя будуць вучыць спецыялістаў 101 рознай спецыяльнасці. Абітурыентам прыслугоўваць будзе званне «дыпламаванага тэхніка». (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СЫПЛЕЦЦА ЗБОЖЖА

Да 15 жніўня г.г. сяляне Беласточчыны прадалі дзяржаве звыш 10 тыс. тон збожжа з сёлеташняга плёну. Калі параўнаць да гэтага ж самага перыяду мінулага года, акажацца, што ў гэтым годзе пастаўкі збожжа тройчы вышэйшыя. Перадавікамі з'яўляюцца гаспадары з Ломжынскага, Манецкага і Кольненскага паветаў.

### У ГОНАР V З'ЕЗДА

Рабочыя сямяціцкай малачарні, ажыццяўляючы даз'ездаўскія прадукцыйныя абавязацельствы, на працягу сямі апошніх месяцаў дадаткова выпусцілі 1636 кг масла, звыш 48 тон сыру, звыш 50 тон малочнага парашку і амаль 10 тон тварагу. Вартасць дадатковай прадукцыі ацэньваюць на суму ў 3 мільёны 668 тыс. зл.

### ТЭЛЕФОН У ПЕНЬКІ

Жыхары вёскі Пенькі ў Беластоцкім павеце рашылі ў гонар V з'езда партыі грамадскім чынам дапамагчы ў пабудове тэлефоннай лініі, якая спалучыць іх вёску з Міхаловам. Кошт пабудовы гэтай лініі — 120 тыс. зл.

### АБАРОНА ГЕТА

Яўрэйскае гета ў Беластоку было апошнім месцам на Беласточчыне, дзе яшчэ ў жніўні 1943 года знаходзіліся яўрэі. Ноччу з 15 на 16 жніўня 1943 г. гітлераўцы прыступілі да астатковай ліквідацыі Беластоцкага гета. Антыфашысцкая яўрэйская арганізацыя заклікала жыхараў гета да збройнага супраціўлення. Няроўная барацьба працягвалася 10 дзён.

У 25-ую гадавіну адчаяннага паўстання беластоцкіх яўрэяў адбыліся ў Беластоку ўрачыстасці прысвечаныя геройству і памяці загінуўшых.

### ПАМЯТКІ ВАЙНЫ

У час капання катлаванаў пад фундаменты новага жыллёвага квартала «Цэнтрум» у Элку знойдзена 5 заіржавелых вялізных бомб. На шчасце гэтыя памяткі вайны бяспечна праляжалі ў зямлі, і сапёрам удалося іх шчасліва адвезці ў бяспечнае месца. На бомбы наткнуўся аператар экскаватара Ян Суровец.

### БЕЛАВЕЖСКІ ПЛЕНЕР

17 жніўня пачаўся ў Белавежы чарговы мастацкі пленер. Прыгажосць Белавежскай пушчы звабіла на гэты раз не толькі польскіх, але і замежных мастакоў.

Пры нагодзе варта адзначыць, што ў мінулым годзе Белавежу наведала амаль 70 тыс. турыстаў. У гэтым годзе зацікаўленне гэтай лясной жамчужынай яшчэ павялічылася. Ужо дагэтуль пабывала ў Белавежы звыш тысячы шматасабовых экскурсій з усёй краіны. Штодзень можна сустрэць у Белавежы замежных турыстаў, быў нават госць з далёкага афрыканскага Камеруна. (вр)




**NIEDZIELA, 25.VIII.**

9.15 Program dnia 9.20 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.30 ,,Marszałek i Milady'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 10.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa''. 11.00 Reportaż z Muzeum Instrumentów Muzycznych. 11.30 ,,Spotkania z przyrodą''. 11.55 P.K.F. 12.00 Wiadomości dziennika. 12.15 ,,Hollywood — lata przełomu'' (,,W starym kinie''). 13.10 ,,Bawcie się z nami'' — program muzyczny. 13.50 ,,Przemiany''. 14.20 ,,Narzędzia'' cz. II (,,Piórkiem i węglem''). 14.40 ,,Orle gniazdo'' — rep. film. 15.05 Teatr Komedii Współczesnej: V. Havel — ,,Motyl na antenie''. 15.55 Sprawozdanie z II Europejskich Igrzysk Młodzieży w Lekkiej atletyce (Lipsk). 16.55 Program sportowy. 18.20 ,,Klub Sześciu Kontynentów''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.15 VIII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie: ,,Dzień płytowy''. W przerwie ok. 21.45 ,,Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 26.VIII.**

15.15 Koncert pieśni Wenery Szaripowej (śpiewaczki tatarskiej). 16.00 Przerwa. 17.00 Program dnia. 17.05 Wiadomości dziennika. 17.15 Olimpijskie przedszkole'' (,,Medale i detale''). 17.35 ,,Karetka z Zielonym Krzyżem'' — film radz. 18.00 TV Magazyn Postępu Technicznego. 18.30 ,,Długouchy'' — film węg. 18.45 ,,Poligon'' — TV Przegląd Wojskowy. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV: Miller — ,,Pułapka na królika''. Po teatrze ok. 21.15 IV Festiwal Polskiego Malarstwa Współczesnego — rep. filmowy. 21.45 ,,Kino Krótkich Filmów''. 22.10 Dziennik TV.

**WTOREK, 27.VIII.**

10.00 ,,Yes Sir'' — film dok. TV NRD (,,Piloci w piżamach'') cz. I. 11.10 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 ,,Teleferie''. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.30 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Profesor Zazul'' — film pol. 20.30 ,,Kontrakty''. 21.00 ,,Yes Sir'' — film dok. TV NRD (,,Piloci w piżamach'') cz. I. 22.10 Dziennik TV.

**ŚRODA, 28.VIII.**

10.00 ,,Duch dr. Mc. Gregor'' — film (,,Dr. Finley''). 10.50 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci. 17.20 PKF. 17.30 ,,Nowoczesna gospodyni''. 17.50 ,,Budowniczy'' — film TV radz. 18.05 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 18.35 ,,Po szóstej'' — TV Klub Młodzieżowy. 19.20 ,,Dobranoc'' 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Spadek'' — nowela filmowa fr. 20.30 ,,Światowid'' 21.00 ,,Duch dr. Mc. Gregor'' — film. 21.50 ,,Za kierownicą''. 22.20 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 29.VIII.**

10.00 ,,Troje z lasu'' — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 17.15 Program dnia. 17.20 Wiadomości dziennika. 17.25 ,,Koncert'' — film węg. (,,Dzień pckoju''). 17.50 ,,Z drugiej strony szklanego ekranu''. 18.10 ,,Aukcja'' — film dok. pol. 18.45 IV Festiwal muzyki organowej i kameralnej w Kamieniu Pomorskim. 18.25 ,,Na tratwie przez Pamir'' — film radz. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV 20.05 ,,Trybuna Telewizyjna''. 20.35 ,,10 minut recenzji''. 20.45 Teatr Sensacji: — ,,Przyznaję się do winy'' cz. I. 21.50 ,,Horyzonty'' — magazyn gospodarczy. 22.20 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 30.VIII.**

10.00 ,,Hilton — Hanoi'' — film dok. TV NRD cz. II. 11.05 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 Dla młodych widzów: ,,Niezwykły obóz''. 16.30 ,,Koncert artystów meksykańskich'' — film radz. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 ,,Teleferie''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Czwarta zmiana'' 19.00 ,,Śpiewa Nikina Nakasoni'' (Japonia''). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik TV. 20.05 ,,Trzy lata po Wielkiej Wojnie'' — program dokument. 20.35 ,,Docent H'' — film pol. 21.00 ,,Dialogi historyczne''. 21.30 ,,Hilton — Hanoi'' — film dokument. TV NRD (,,Piloci w piżamach'') cz. II. 22.35 Dziennik TV.

**SOBOTA, 31.VIII.**

10.00 ,,Gorąca linia'' — film fab. pol. 11.45 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Program tygodnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 ,,Gawędy wilków morskich''. 17.20 ,,Świadectwo urodzenia'' — film fab. pol. 19.00 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Monitor. 20.10 Program rozrywkowy. 21.10 Wiadomości sportowe. 21.35 Dziennik TV. 22.00 ,,Gorąca linia'' — film fab. pol.




**Piątek, 23 sierpnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dzieciom o zwierzakach. 8.30 Dla dzieci ,,Wesołe miasteczko''. 9.00 — Na polach kraju. 14.20 Nowiny. 14.25 Program. 14.30 Skurzana piłka (Dwóch uczniów). 15.30 Album przyrody. 16.00 Teatr lalek ,,Domek na kółkach''. 17.00 ,,5+2'' Tygodniowy przegląd. 17.30 Piłka nożna. W przerwie — nowiny. 19.15 Sztafeta nowin. 20.15 Piosenka nie zna granic. Sopot.

**Sobota, 24 sierpnia**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Nowiny. 8.00 Z dniem urodzin. 8.30 Zdrowie. 10.00 Echo stadionów. 10.30 Muzyczna szkatułka. 10.50 ,,Knot'' Satyryczne czasopismo. 11.00 Sobotni reportaż. Z zakładu poligraficznego. 11.30 Dla uczniów. Podróż w przyszłość. 12.15 Wszechzwiązkowy zlot młodych rakietowców. 13.00 Dla dzieci: ,,Chłopczyk gwiazd''. Film. 14.15 W związku z 220 rocznicą urodzin Żaka Lui Dowida. 14.30 Program kolorowej telewizji. 16.00 Kino podróżnika. 17.00 Przy kominku. 18.30 ,,Czas''. Program informacyjny. 19.15 W eterze ,,Młodość''. Do 50 rocznicy Komsomołu. 20.15 Piosenka nie zna granic. Sopot.

**Niedziela, 25 sierpnia**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Budzik. 8.00 Dla was kobiety. 8.30 ,,Postęp'' Czasopismo interwizji. 9.00 Dla żołnierzy i marynarzy. Tam gdzie służy Hosteła. 9.30 Muzyczny kiosk. 10.00 Dla uczniów. ,,Rób z nami''. 11.00 Dla uczących się. ,,Tutaj mieszka muzyka''. 11.30 Atlas telewizyjny narodów ZSRR — Uzbecka republika. 12.30 Dzisiaj dzień górnika. 13.00 ,,Białe i czarne'' Telewizyjny szachowy klub. 13.25 Dziennik pięciolatki. Do dnia górnika. 14.00 Program telewizji kolorowej. 15.30 Dla uczniów. Skórzana piłka. 17.00 Siedem dni, Program międzynarodowy. 17.45 ,,Ekran i czas''. Almanach telewizyjny. 18.50 Trzy doby po nieśmiertelności''. Film. 20.15 Piosenka nie zna granic. Sopot.

# Усё турыстам...

Новая гасцініца ў Белавежы (а правільней яе частка, бо толькі адно крыло (ўжо гатовае і можа прымаць турыстаў) мае пакоі двухасабовыя і трохасабовыя, кожны з трохвугольным балконам.

Другой арыгінальнай навасцю Белавежы з'яўляюцца дарожныя ўказальнікі з сапраўдных ствалоў дрэў з галінкамі, якія паказваюць напрамкі ў Белавежскім батанічным парку і на дарогах, што вядуць у Белавежу. (вл)

Фота В. Гжэгорчык






# ЧЫРВОНЫ КРЫЖ

Павятовае праўленне Польскага Чырвонага Крыжа вядзе шырокую дзейнасць на Беласточчыне. Існуе ў павеце 112 школьных гурткоў і 48 гурткоў у прадпрыемствах. Праводзяцца ў гэтых гуртках трохступенныя курсы першай дапамогі ў нешчаслівых выпадках. У пачатковых школах арганізуюцца курсы 1-ай і 2-ай ступені, а ў ліцэальных класах вядуцца заняткі найвышэйшай трэцяй ступені і арганізуюцца санітарныя дружыны. Пры кожнай грамадскай радзе нарадовай, а ёсць іх 25, існуе аддзел самаахові. У яго склад уваходзіць таксама санітарная служба. Яна ўключаецца ў палявыя заняткі аддзела самаахові. 14 ліпеня праводзіліся паказныя заняткі аддзела самаахові. Санітарная служба са сваімі абавязкамі справілася на выдатна. (мх)




Бібліятэка ў вёсцы сталася зараз нечым так звычайным і паўсюдным, што проста недарэчнасцю было б бачыць у тым нешта асаблівае. Аднак гэтая паўсюднасць вясковых бібліятэк — з'ява даволі новая. Да вайны, як вядома, кніжка на вёсцы была вялікай рэдкасцю. У найлепшым выпадку можна было сустрэць тут дзіцячыя падручнікі з першых класаў пачатковай школы. Кніжка да чытання — раман ці аповесць — трапляла на вёску вельмі рэдка, была яна ўласнасцю некаторых сялян, і пазычалася з рук у рукі.

Зараз, як пісаў Міцкевіч, кніжка заблудзіла пад стрэхі. У вясковых бібліятэках дубовыя полкі гнуцца пад тысячамі тамоў. Кніжкі, як вядома, у бібліятэках пазычаюцца задарма. Ці карыстаюць з іх сяляне? А калі так, то ў якой меры і якія іх у гэтым густы? З пытаннямі гэтымі звяртаемся да Яніны Пташынскай — кіраўніка грамадскай бібліятэкі ў Клюковічах, Сямяціцкага павета.

Перад тым, аднак, як скажам слова аб клюковіцкіх чытачах, — некалькі слоў аб клюковіцкіх кніжках. У Клюковічах ёсць іх звыш 6 тысяч. У гэтым агульным ліку знаходзіцца 185 кніжак беларускіх, 68 — рускіх, каля 150 — сельскагаспадарчых і некалькі соцень кніжак дзіцячых. Гэтых апошніх выразна не хапае. Вядома, дзіцячыя кніжкі нішчацца хутка, дзеці складаюць прытым вялікі працэнт чытачоў бібліятэкі. Кнігазбор бібліятэкі безупынна пашыраецца, у мінулым годзе куплена каля 500 кніжак, а ў гэтым годзе куплена ізноў каля 250 экземпляраў. Зразумела, кніжкі нішчэюць, і таму ёсць тут і пэўныя страты. Значна меншыя яны аднак ад здабыткаў.

У клюковіцкай бібліятэцы кніжкі пазычае каля 330 чытачоў. З таго 94 асобы — гэта дзеці да 14 год — рэшта старэйшыя ў розным узросце. Што яны перш за ўсё любяць чытаць?

— Ваенныя кніжкі, — адказвае пані Яніна Пташынская. — І то не аб якой-небудзь вайне, але канкрэтна: кніжкі аб другой сусветнай вайне. Нават дзеці. Прыходзяць вучні з V—VI класа і просяць: дай ім ваенныя кніжкі да пачытання.

Падобныя сцверджанні чуў я і ад іншых бібліятэкараў, працуючых у беларускіх вёсках. Чаму нашыя чытачы любяць чытаць перш за ўсё пра вайну — не ведаю. Але факт астаецца фактам. У іншых ваколіцах бабліятэкі патрабуюць ад улад перш за ўсё пакупкі так званых «крыміналаў», якія праўдападобна народ там расхватвае. У нас «крыміналамі» амаль не цікавяцца. У Клюковічах ёсць усяго 5—6 асоб моладзі, якія любяць чытаць такога тыпу літаратуру. Затым госці з горада, якія прыязджаюць у Клюковічы на адпачынак, заходзяць у іх бібліятэку ды просяць пашукаць ім «крыміналаў». А мясцовыя сяляне чытаюць перш за ўсё аб гераічных учынках салдат ды партызанаў на ўсіх франтах апошняй вайны.

Другім разрадам кніжак, якія ў клюковіцкай бібліятэцы цешацца папулярнасцю, з'яўляецца гістарычная літаратура (кніжкі Сянкевіча) і маладзёжныя (пра індзейцаў). Кніжкі на сельскагаспадарчыя тэмы пазычаюцца мала, але не таму, што сяляне іх не чытаюць. Кніжкі гэтыя параўнальна танныя, маюць іх на ўласнасць многія гаспадары, а таксама можна іх пазычыць у сельскагаспадарчым гуртку.

Беларускія кніжкі чытае перш за ўсё школьная моладзь як абавязковую літаратуру. Затым чытаюць яны мала. Віна тут у недахопе адпаведных цікавых кніжак і адпаведных іх выданняў дастасаваных да густаў слабейшага, неабзнаёмленага з беларускай літаратурай чытача.

Хаця бібліятэка ў вясковым асяроддзі сама па сабе выконвае вялікую культурна-асветную ролю, аднак не без значэння тут адпаведная прапаганда кніжкі праз вясковага бібліятэкара. Пані Яніна Пташынская ўмее такую прапаганду правесці дасканала. Сведчаць аб тым вынікі яе працы. Так, напрыклад, калі ў 1964 годзе пачынала яна працу на пасадзе кіраўніка грамадскай бібліятэкі — у суседняй вёсцы Вілінава было ўсяго 11 чытачоў, а ў Вычулках — 13. Зараз у Вілінаве 130 асоб чытае кніжкі з грамадскай бібліятэкі, а ў Вычулках — 98 асоб. З'яўляецца гэта вынікам настойлівай працы з чытачом і асяроддзем — розных мерапрыемстваў накіраваных на прапаганду кніжкі, якія праводзіць кіраўнік грамадскай бібліятэкі.

Ул. Паўлючук

# ПРАКТЫЧНАЯ ГАСПАДЫНЯ

Бельскі ГС арганізаваў у Рыбалах пункт «Практычнай гаспадыні», які прыносіць вялікія карысці для вёскі. Працаўніком гэтага пункта з'яўляецца Марыся Асіпюк. Яна была накіравана ў Беласток на спецыяльныя курсы гафтавання, плісавання, направы панчох. Цяпер Марыся Асіпюк выконвае гэтыя паслугі, а зімою вядзе курсы гатавання. Тут жа і праводзяцца шматлікія іншыя курсы, як: гатаванне і пячэння, крою і шыцця, вырабаў джэмаў і г.д. Нядаўна была праведзена лекцыя аб вырабе галярэтак і віна з трускалак, вішняў і чорнай смародзіны. У пункце «Практычнай гаспадыні» знаходзіцца таксама пазычальня пасуды, сціральных машын, пыласосаў. Апошнім часам гэты ж пункт прымае адзежу да хімічнай чысткі. Тут, вядома, гэтыя работы не выконваюцца. Адзежа да чысткі адпраўляецца ў Беласток. «Пункт практычнай гаспадыні» стаўся вельмі папулярным у Рыбалах. З яго паслуг карыстаюць не толькі жыхары Рыбал, але таксама і жыхары Паўлаў, Война, Рэпнікаў, Канюк, а нават Давідаўцаў і Цялушак. мх

ЛЮДЗІ і ЧЫНЫ

## Праца грамадскім чынам

Кляшчэлі выдзяляюцца асабліва інтэнсіўнымі працамі грамадскім чынам. У мінулым годзе адрамантавалі яны дзве вуліцы асады: Свярчэўскага і Каперніка і занялі першае месца ў конкурсе на найбольш гаспадарлівую і чыстую вуліцу. Дзякуючы працам грамадскім чынам выканана таксама зямныя працы пры пабудове дарог на даўжыні 2 кіламетраў. Шкада толькі, што прадпрыемства мясцовых дарог у Гайнаўцы не прыступіла да пабудовы цвёрдай маставой. Праца кляшчэлеўцаў нішчэе, і людзі знеахвочваюцца да далейшай ахвярнасці. (п)

## Зноў дубінскі чын для культуры

Традыцыя «грамадскім чынам» мае ў Дубінах гісторыю. Чынам такім была запачаткавана і даведзена да канца будова святліцы, у якой зараз змяшчаецца кіно і бібліятэка. Але ж вядома, нашы культурныя патрэбы растуць цяпер хутка. Замалой аказалася святліца. І зноў дубінцы ў дапамогу паклікалі чын. Да святліцы ў Дубінах будзе дабудаваны клуб-кавярня велічынёй 16х6,5 метра. Ужо падрыхтаваны матэрыял. Як і даўней, ініцыятарам гэтага культурнага чыну з'яўляецца **Косця Грыгарук** — кіраўнік святліцы. (вл)

# Фестын у Гурцы

3-га жніўня ўпершыню ў Гурцы і ў тым асяроддзі быў арганізаваны фестын Беларускага таварыства. БГКТ шырока адзначае 50-ую гадавіну Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Гэтая юбілейная дата адзначалася народным фестынам у Гурцы. Трэба падкрэсліць прыгожае месца фестыну. Тут, сярод лістовых высокіх дрэў, а перш за ўсё ліп і вязаў, зроблена была пляцоўка. Сюды сабралося шмат людзей з грамады Гурка.

Урачыстасць адкрыў старшыня мясцовай ГРН Іван Мартус. Даклад прысвечаны ролі і значэнню КПП і КПЗБ чытаў інстуктар ГП БГКТ на Сакольскі павет Анатоль Севясцянюк.

У мастацкай частцы выступала эстрада «Лявоніха».

Пасля канцэрта пад музыку крынкаўскага аркестра да позніх гадзін ночы працягвалася забава.

Арганізатарамі фестыну былі: Праўленне Сакольскага аддзела БГКТ і актыў ГРН-у ў Гурцы.

Варта таксама падкрэсліць добрае забеспячэнне крынкаўскага ГС-у харчовымі прадуктамі. (мх)



**Выступае Янка Блізнюк і Марыся Мароз. Акампаніруе Станіслаў Станкевіч.**

# Фальклор

Аддала мяне маці за старога...
Прыказала шанаваці як і маладого.
А я яго шаную, як сабаку рудую:
Прывязала да стала і тры дні есці не дала.
Тры дні есці не дала, а ён зубы выскаля.

Скалі, скалі сучы сыне.
Зараз вазьму хварасціну
Хварасцінай па баку
Зміласердзілася.
Адвязала ад стала
Взяла есці дала.

Ад Анастасіі Саевіч
з Новага Ляўкова
Запісаў Янка Цялушэцкі

# РАПАРТ З „НЯЛАГЕРНАГА ЛЕТА“

Паважаны чытач! Дакладваю, што... Не, не. Дакладваць не буду. Проста хачу заявіць, што вельмі люблю летнюю пару. І не толькі таму, што цёпла, што сонца, але і таму, што маю магчымасць назіраць працу дзяцей — арганізацыю т. зв. нялагернага лета ЗГП. Тым больш любуюся гэтай акцыяй, што якраз дзеці самі, амаль без удзелу дарослых, арганізуюць сабе жыццё. Старэйшыя дзеці апякуюцца малодшымі, і так гэта маецца аж да павятовага штаба нялагернага лета, які складаюць у асноўным вучні і моладзь сярэдніх школ. Хіба гэта добра, што дзеці працуюць з дзяцьмі, што дарослыя заняты сваімі справамі, не маюць часу ўмешвацца ў **кожную** дзіцячую гульню.

Хачу расказаць аб «нялагерным леце» **Бельскага гуфца ЗГП.** Рэч ідзе аб Бельску невыпадкова. Гэты ж гуфец амаль кожны год займае адно з першых месц у ваяводстве, калі разыходзіцца аб арганізацыю летняй акцыі. «Нялагернае лета» форма, якая найбольш адпавядае вясковым дзецям. А асноўную колькасць гарцэраў складае тут іменна вясковая дзетвара.

Калі ў канцы ліпеня я наведаў Бельскі штаб нялагернага лета, было зарэгістраваных больш 500 груп. Не магу падаць ліку дакладнага таму, што з кожным днём, а нават гадзінай ён павялічваецца. Ахопліваюць яны больш 5,5 тысяч дзяцей, а лік гэты ў жніўні павялічваецца да 8 тысяч.

Друхна Дануся з Павятовага штаба раскладае перада мною рапарты застэмпаў. Паколькі Дануся занятая іншымі справамі, астаюся з рапартамі сам-насам. Адкрываю першыя. Цудоўна выглядаюць, каляровыя, а іх малюнкі выканалі самі гарцэры. Надта многа рапартаў. Гэта прысылае група нялагернага лета з вёскі **Налогі.** Групу вядуць тут вучаніцы пачатковай школы ў Баньках. Калектыў «Касманаўтаў» дакладвае: «Зуховы атрад арганізаваў акцыю «Залатое руно». Назбіралі 12 кг ягадаў, за што атрымалі 96 зл...» Іншы рапарт інфармуе: «Сёння арганізавалі акцыю «Нябачная рука». Групаю пайшлі мы да аднаго старога чалавека, у якога быў неаполаты агарод. Ён у гэты час якраз пайшоў у поле, а мы ў той час пайшлі ў агарод і апалолі два загоны гародніны. Калі ў поўдзень людзі вярталіся на абед, то мы хутка выйшлі, а пры аполатых загонах пакінулі картачку — «Нябачная рука»... Іншая група інфармуе: «За заробленыя грошы купілі мы трускалак і цукру і зварылі кампот. Паразлівалі яго ў пасуду і ў 11.30, калі людзі былі ў полі, пайшлі мы так, каб ніхто нас не бачыў, і паставілі пры іх адзенні кампот з картачкай «Нябачная рука жадае прыемнага апетыту».

**Раіса Кулік з Орлі** дакладвае, што група пад яе кіраўніцтвам дапамагла сабраць і звезці збожжа перад бурай. Старэйшыя з застэмпу дапамагалі жаць сярпамі збожжа, якое вельмі нізка палягло. **Яўгінія Такарэўская з Шэрняў** інфармуе, што м. інш. арганізавалі тут касцёр з нагоды Свята Адраджэння. Дзецям чытала артыкулы з газет аб свяце, а на касцёр прыйшлі ўзрослыя. Іншая група з Орлі дакладвае, што зрабіла альбом і сарганізавала ўрачыстасць на тэму в'етнамскай вайны. Альбом будзе пераказаны ў гуфец.

Можна множыць і множыць такога роду прыклады, рапарты пісаныя шчырою дзіцячаю рукою. Праўду кажучы, вышэй прыведзеныя — гэта не найлепшыя, а проста першыя з краю. Асабіста вельмі цешуся з такіх поспехаў дзетвары, яе грамадскага заангажавання. Агромная колькасць бацькоў і ўвогуле вясковага насельніцтва вельмі ўдзячна за акцыю. Камендант гуфца Ян Пяшчынскі падаваў мне прыклады, колькі бацькоў прыходзіць дзякаваць за арганізацыю адпачынку дзецям на вёсцы. Многія бацькі самі прывозяць рапарты ад гарцэраў у павятовы штаб. Гэта добра, і гэта радуе. Але гаварылі мне некаторыя са штаба, што часта, калі яны візітуюць групу нялагернага лета і трэба паштэмплязаць пратакол, солтысы адказваюцца ім гэтага зрабіць. Мой заклік: не будзьце бюракратамі і фармалістамі ў адносінах да дзяцей!

Гэта не ўсё аб нялагерным леце. Будзем вяртацца да гэтых спраў пасля заканчэння акцыі, а тады будзе час на прапановы. Сёння ў гэтым аптымістычным з пераканання «рапарце» хачу падкрэсліць, што ў нялагерным леце ў Бельску адбываецца вялікая ідэйна-выхаваўчая праца, якую трэба працягваць у школах іменна такімі ж метадамі.

**Аляксей Карпюк**
Фота аўтара



**Застэмп адправіўся па «Лясное руно».**

(Працяг са стар. 1)

# Супольная радзіма - супольныя заданні

ляючы вузы дружбы паміж народамі, развіваючы пачуцці патрыятызму і ангажавання ў сацыялістычнае будаўніцтва ў Польшчы — нацыянальныя таварыствы павінны выконваць важную функцыю ў працэсе выхаваўчай працы.

З задавальненнем сцвярджаем, што ў шматгадовай сваёй дзейнасці нацыянальныя таварыствы могуць пахваліцца вялікімі дасягненнямі.

Таварыствы зрабіліся больш моцнымі ў арганізацыйных адносінах, адзначаем, праўда, даволі яшчэ павольны, але развіваючыйся рост кадры ахвярных і актыўных дзеячаў, якія свядома і з адданасцю рэалізуюць статутовыя мэты сваіх таварыстваў, якія ўласціва разумеюць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі і ўрада.

Наглядаем шырокі круг разнародных форм культурна - асветнай і прапагандысцкай дзейнасці, сістэматычнае павышанне мастацкага ўзроўню існуючых аматарскіх гурткоў, шырокае развіццё чытальніцтва кніжак і прэсы на роднай мове.

Вялікае грамадска-палітычнае значэнне меў актыўны ўдзел усіх таварыстваў у такіх агульнадзяржаўных кампаніях і мерапрыемствах, як работы звязаныя з Кангрэсам польскай культуры, Тысячагоддзем польскай дзяржавы, XXV гадавінай ППР, 50 гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і інш. Сотні мерапрыемстваў, сустрэч, дакладаў, перадач, артыкулаў, выставак арганізаваных таварыствамі для насельніцтва шматлікіх рэгіёнаў

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ?

Летняя спякота спрыяе ўзнікненню пажараў. Вось звесткі аб некаторых з іх. Ноччу 5 жніўня загарэлася клуня Яна Карэцкага з вёскі Кандраткі, Беластоцкі павет. Агонь хутка перакінуўся на суседнія будынкі. Разам згарэла 4 клуні з сёлеташнім жытам і сенам. Затраты сялян ацэньваюць на 300 тыс. зл. У вёсцы Ліповая гара Сакольскага павета згарэў дом, клуня і хлеў Станіславы Пільчук. Разам з будынкамі згарэла ўсё, што было ў хаце, а ў клуні і ў хлявах згарэлі сельскагаспадарчыя прылады і жывёла. Агонь зацярушылі дзеці: 5-цігадовы Юрка і 4-охгадовы Сташэк Пільчукі, якія забаўляліся запалкамі. Таксама дзеці падпалілі дом Уладзіслава Слоньскага з вёскі Лесна ў Гайнаўскім павеце. Апрача хаты згарэла клуня са збожжам. У вёсцы Канюкі Гайнаўскага павета ноччу 4 жніўня згарэла 6 клуняў з сенам і жытам і 6 хлявоў з жывёлінай. Агонь узнік у клуні Аляксандра Томчука. Разам затраты ацэньваюць на 500 тыс. зл. У Васількове згарэў дом Браніслава Яроньскага. Затраты — 60 тыс. зл.

Язэп Харужы з Беластока 4 жніўня праязджаў матацыклам праз вёску Чорна Весь Касцельна. Раптам з аднаго панадворка выехаў самаход грамадзяніна Вялікабрытаніі Рышарда Савіцкага, які там праводзіць водпуск у сваякоў. Матацыкліст не паспеў затармазіць і ўдарыў у самаход. У выніку гэтага параніў сабе ногу. Англічанін уласным самаходам адвёз яго ў хуткую дапамогу. Міраслаў Карповіч з вёскі Сабалева ў Беластоцкім павеце едучы з жонкаю на матацыкле вуліцай Кавалерыйскай у Беластоку прабаваў неправідлова выпярэджваць самаход і ў выніку гэтага наехаў на падводу, якая набліжалася з супрацьлеглага напрамку. Матацыкліст і яго жонка былі цяжка параненыя, іх адвезлі ў бальніцу. Падобны выпадак здарыўся ў Саколцы. Там Аляксей Краўчук з Беластока, які ехаў самаходам «Трабант», сутыкнуўся з матацыклістам Янушам Шымчуком. У выніку чаго матацыкліст быў паранены. Віноўнікам з'яўляецца шафёр «Трабанта», які вымусіў першынство праезда.

Каля вёскі Волька ў Бельскім павеце на чыгуначным пераездзе папаў пад пасажырскі цягнік грузавік, якім кіраваў Яўгеній Мінкевіч з вёскі Праневічы. Шафёр пакінуў разбітую аўтамашыну, а сам уцёк.

**асака**

# БРАТЭРСТВА ЗМАЦАВАНАЕ КРЫВЁЮ

**Сёлета, 3 ліпеня, напярэдадні 24 гадавіны вызвалення Мінска, «Літаратура і мастацтва» надрукавала матэрыял Польскага агенцтва інтэрпрэс аб генерале Яне Рачкоўскім, камандуючым нашай авіяцыяй. Лічым, што матэрыял будзе карысны і нашым чытачам. Тым больш, што 23 жніўня адзначаем Дзень авіяцыі.**

Гэты чалавек — адзін з тых, хто ў баях супраць гітлерызму ўласнай крывёю пісаў старонкі навейшай гісторыі, хто на франтах і ў партызанскіх атрадах закладваў падмурак польска-савецкага баявога братэрства. Ян Рачкоўскі. Салдат, патрыёт, камуніст.

Ён ваш зямляк. На навагрудчыне прайшло яго маленства і юнацтва. Яму было толькі дзевятнаццаць, калі ён залічыў сябе ў рады народных мсціўцаў. Са сваімі таварышамі па зброі з атрада імя Шчорса брыгады імя Чапаева Ён прайшоў не адну сотню кіламетраў. І кожны крок на гэтым шляху быў выпрабаваннем на мужнасць, на адданасць народнай справе.

...Мінчане, якія 3-га ліпеня 1944 года з радасцю сустракалі воінаў-вызваліцеляў, сярод стомленых байцоў, што ішлі па вуліцах зруйнаванага горада, маглі бачыць і Яна Рачкоўскага, які ў складзе 65-ай арміі генерала Батава вызваляў сталіцу Савецкай Беларусі.

Далейшы шлях маладога салдата ляжаў у краіну яго продкаў...

Скончылася вайна, але Ян Рачкоўскі рашыў звязаць свой лёс з арміяй, Войскам Польскім. Неўзабаве ён набывае прафесію ваеннага лётчыка, канчае вышэйшую вайсковую школу. Пасля гэтага малады афіцэр займае рад кіруючых пасад у польскіх ваенна-паветраных сілах і, нарэшце, становіцца камандуючым авіяцыяй Войска Польскага.

Сказаць шчыра, дамаўляючыся з генералам Рачкоўскім аб інтэрв'ю, я была не вельмі ўпэўнена, што нам удасца хутка сустрэцца. Я ведала, што ў камандуючага дзень распісаны літаральна па мінутах. Акрамя сваёй асноўнай, ён заняты яшчэ і вялікай грамадскай работай. Генерал-кандыдат у члены ЦК ПАРП і член кіраўніцтва Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. Гэта, натуральна, накладвае на яго шматлікія абавязкі.

Блізкія сябры генерала расказваюць, што ён вельмі цікавіцца літаратурай, гісторыяй і... верхавой яздой. Гэтая




**Генерал Рачкоўскі на выстаўцы Аэраклуба ПНР.**

краіны адыгралі сур'ёзную ролю ў працэсе сацыялістычнага выхавання грамадства.

III

Мы жадаем, каб нацыянальныя таварыствы, а таксама іх прэсавыя органы, актыўна ўключыліся ў вялікую палітычную кампанію, у дыскусію вакол усіх галін нашага жыцця ў святле тэзісаў на V з'езд ПАРП.

Я хацеў бы звярнуць увагу на некаторыя важнейшыя праблемы:

1. Мы павінны **сканцэнтраваць нашу дзейнасць** вакол шырэйшага асвятлення меншасным асяроддзям і ўсяму грамадству сукупнасці здабыткаў нацыянальнай палітыкі нашай партыі і ўрада.

Усебакова паказаць эканамічна-грамадска-культурныя дасягненні, якія з'яўляюцца ўдзелам усяго грамадства і ўсіх нацыянальных меншасцей, дакладна і вобразна паказаць здабыткі ў працы нацыянальных таварыстваў, паказаць у вашай штодзённай дзейнасці шмат прыкладаў творчых намаганняў людзей, пазітыўных герояў штодзённай працы, актывістаў і энтузіястаў грамадскай культурна-асветнай працы, людзей, якія сваімі паводзінамі даюць прыклад інтэрнацыяналізму і патрыятызму, пашаны і любві да нашай супольнай сацыялістычнай Польшчы — усё гэта добра будзе служыць выхаваўчым заданням таварystваў.

Такая дзейнасць будзе адначасна найлепшым адпорам перад усялякімі вузкімі, нацыяналістычнымі тэндэнцыямі, якія выступаюць тут і там у паасобных асяроддзях, перад усялякімі элементамі, якія стараюцца ўбіць клін у правільна ўкладваючыеся нацыянальныя адносіны ў нашай краіне.

Не з'яўляемся, прытым, прыхільнікамі спрашчэння і лакіроўкі. Жадаем добрасумленнага, сапраўднага вобразу. Аднак лічым, што факты нашай нацыянальнай палітыкі гавораць за сябе.

Дасканалай аказіяй да шырокага выйсця з гэтымі праблемамі будзе падрыхтоўка да святкавання XXV гадавіны ўтварэння Народнай Польшчы. У гэтай справе наша выдавецтва звернецца да таварыстваў з канкрэтнымі прапановамі.

2. Узмацненне ідэйна-выхаваўчага ўплыву з боку нацыянальных таварыстваў **патрабуе ўмацавання супрацоўніцтва і садзейнічання таварыстваў з партыйнымі ўстановамі, кантрольнымі органамі ўсіх ступеней, з культурнымі арганізацыямі і ўстановамі.**

Нам ідзе пра тое, каб таварыствы і іх звенні навязвалі больш цесны кантакт з ведамствамі і аддзеламі ўнутраных спраў, каб ва ўсіх важнейшых пачынаннях супольна знайсці сродкі і метады працы даючы як найбольшыя культурныя і грамадска-палітычныя эфекты.

Мы хацелі б, каб нацыянальныя таварыствы ў шырэйшым, як да гэтага часу, аб'ёме выкарыстоўвалі ў сваёй дзейнасці існуючую дзяржаўную культурна-грамадскую базу (дамы культуры, грамадскія святліцы, клубы «Руху», спартыўныя збудаванні і г.д.), каб шырокім фронтам выходзілі ў сваёй дзейнасці да польскага грамадства, каб рэпертуар мастацкіх калектываў адлюстроўваў зацікаўленні насельніцтва данай тэрыторыі.

3. Асноўнай базай дзейнасці большасці нацыянальных таварыстваў з'яўляецца сялянскае насельніцтва.

І таму ў працы таварыстваў трэба паставіць вялікі націск на праблемы сельскагаспадарчай асветы, папулярызаванне аграрнай палітыкі партыі і ўрада, прапагаванне прагрэсу ў сельскай гаспадарцы і жывёлагадоўлі.

У змесце культурна-асветнай і грамадска-выхаваўчай працы нацыянальных таварыстваў, як і да гэтага часу, павінны дамінаваць акцэнты, якія паказваюць усё тое, што яднала і яднае польскі народ са сваімі суседзямі.

Падкрэсліванне ў нашай дзейнасці дасягненняў Народнай Польшчы, здабыткаў рэгіёнаў, дзе пражывае насельніцтва нацыянальных меншасцей, павінна суправаджацца з усебаковым асвятленнем агромных поспехаў будаўніцтва ў СССР і паасобных рэспублік, а асабліва Украіны, Беларусі і Савецкай Літвы. Многа месца ў нашай працы мы павінны прысвячаць добрасумленным ведам аб жыцці нашых паўднёвых і заходніх суседзяў — Чэхаславакіі і ГДР.

Усе таварыствы павінны накіраваць усе свае намаганні, сваю ініцыятыву, свае магчымасці і сваё ўменне на развіццё шырокай ідэйна-выхаваўчай працы, на актыўнае ўключэнне сваіх членаў у рэалізацыю заданняў сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай супольнай Радзіме — Народнай Польшчы.

# ШТО ЎБАЧЫМ, ШТО ПАЧУЕМ?

Галоўныя беластоцкія культурныя ўстановы рыхтуюцца салідна да спаткання новага сезона (восень, зіма). Прапановы вельмі цікавыя і лічым карысным прадставіць іх.

### ДЗЯРЖАЎНЫ СІМФАНІЧНЫ АРКЕСТР У БЕЛАСТОКУ

Цыкл канцэртаў Бетховена. Выканаўцамі будуць лепшыя піяністы краіны: Рэгіна Смэндзянка, Уладзіслаў Кэндра, Лідзія Грахталуўна, Кшыштоф Яковіч, Аляксандра Утрэхт.

Канцэрты заграічных салістаў, якія чатыры разы выступяць у Беластоку. Прыедуць яны з СССР, Японіі, ЗША, Англіі.

З выпадку 150-ай гадавіны нараджэння Станіслава Манюшкі адбудзецца эстраднае выкананне яго оперы «Галька». Трэба прыпомніць тут, што Манюшка быў знаёмы і супрацоўнічаў з беларускім драматургам В. Дуніным-Марцінкевічам і да тэксту яго камедыі «Сялянка» напісаў музыку. Так паявілася опера «Сялянка».

25-годдзе Народнай Польшчы будзем сустракаць у музычным жыцці ваяводства канцэртамі твораў сучасных польскіх кампазітараў: Лютаслаўскага, Берда, Бацэвічуўны, Пендэрэцкага, Сікорскага, Шабельскага, Вяховіча.

Беластоцкі сімфанічны аркестр супольна з «Рухам» ужо ў мінулым годзе заінсталяваў канцэрты ў клубах на вёсцы. Адбылося 20 такіх канцэртаў. Клубы былі ўсюды перапоўнены слухачамі. Гэтая ж форма будзе прадаўжацца і ў будучыні. На першы агонь пойдзе цыкл 10-ці канцэртаў «Рэвалюцыйная паэзія і музыка» ў сувязі з гадавінамі: 50-ай КПП і 20-ай ПАРП.

### ЛЯЛЬКАВЫ ТЭАТР «СВЕРШЧ» У БЕЛАСТОКУ

Першай пазіцыяй у новым сезоне будзе **«Качка - дзеячка»**. Гэта вадэвіль для наймалодшых, аж да V класа ўключна.

Акцыя п'есы адбываецца ў горадзе Нехцяёве, дзе нікому нічога не хочацца рабіць. Адзіным заняткам жыхараў горада з'яўляецца сон. Таму горад брудны.

Гераіня Качка-дзеячка вырашае дзейнічаць. Для дапамогі кліча рэдактара Свершчыка. Супольна ім пасля доўгага намагання ўдаецца ўсё змяніць. Жыхары горада бяруцца да працы, змяняецца выгляд горада і змяняюцца яго жыхары, якія ў канцы перайменоўваюць горад на Хцеюў.

П'еса **«Кацькін дзень»** знаходзіцца зараз у перакладзе з рускай на польскую мову. Будзе гэта п'еса, якая ўпершыню будзе ставіцца ў Польшчы Беластоцкім тэатрам. Прызначаецца для дзяцей ад наймалодшых для III класа ўключна.



Сцэна з п'есы «Залаты ключык», якая ставілася Беластоцкім лялечным тэатрам у мінулым сезоне.

Гераіня п'есы Каця робіць што хоча і калі хоча. Такія ўчынкі яе выклікаюць бунт іншых герояў. Усе яны вырашаюць аб'явіць «Дзень Каці», у якім усе робяць паводле погляду Каці. Прас купаецца ў ванне, сукенка выцягваецца неймаверна, амаль даходзіць да дарожнага выпадку, бо кожны ездзіць, як хоча. «Дзень Каці» быў дасканалай навукай для гераіні, якая зразумела, што ў жыцці нельга паступаць паводле ўласнага «я», але трэба мець пачуццё адказнасці разам з усім грамадствам.

**«Малы тыгр Петрэк»** прызначаецца для дзяцей крыху старэйшых, да VIII класа ўключна. П'еса мае вялікае выхаваўчае значэнне.

Малы тыгр Петрэк усяго баіцца. Таму вялікія тыгры рашаюць забраць яму палоскі з цела, якія абазначаюць адвагу. Ад такога тыгра ўсе адварочваюцца. Петрэк ідзе ў свет, каб здабыць адвагу. У падарожжы прабуе купіць хоць 100 гр адвагі. Нічога не выходзіць. Сумны вяртаецца дахаты. Застае тут сваю маму, цяжка хворую. Любоў да яе памагае перамагчы страх. Тыграня вырашае ехаць па доктара ў цёмную бурлівую ноч. Едзе на дзікім кані, праз раку перапраўляецца на алігатары. У гэту ноч тыгр Петрэк з'яўляецца самым адважным. Перамагае ўсе перашкоды і прывозіць доктара. Дарослыя тыгры аддаюць яму палоскі, бо ён цяпер самы адважны сярод іх.

**«Як сонца на захадзе ўзыходзіла».** Для дзяцей старэйшых і моладзі. П'еса ўзнагароджана на конкурсе сучасных п'ес для лялькавых тэатраў у Познані ў 1967 годзе.

Цікавы расказ пра справы нашага свету: праўду, няпраўду. Апрацавана на народных матывах.

З гэтай п'есай Беластоцкі тэатр «Сверш» выступіць на агульнапольскім фестывалі з выпадку 25-ай гадавіны Народнай Польшчы ў Вроцлаве ў 1969 годзе.

*

А што прапануе прывезці на Беласточчыну **«Эстрада»** — дзяржаўнае прадпрыемства, якое займаецца арганізацыяй выступленняў калектываў і артыстаў з усяе краіны і заграніцы? Назавем некаторыя. Будзе паўтораны слоўны спектакль «Дрэвы паміраюць стоячы», у галоўнай ролі Мечыслава Цвіклінская. Будуць выступаць артысты з Варшавы, Вроцлава, Гдыні, ГДР, Венгрыі, Чэхаславакіі.

Навіною будуць праграмы, прыстасаваныя для мястэчак і вёсак, клубаў і святліц. (вл)

звычка засталася ў яго з партызанскіх часоў.

...Апасенні мае былі дарэмнымі — генерал Рачкоўскі, даведаўшыся пра мэту майго прыходу, прыняў мяне адразу.

— Я з задавальненнем падзялюся з беларускімі чытачамі ўспамінамі пра сваю партызанскую маладосць, — сказаў, усміхаючыся, Ян Рачкоўскі. — Наш атрад імя Шчорса дзейнічаў у раёне Мінска, Слуцка, Капыля. Камандзірам нашым быў Аляксандр Іванавіч Колчанка, мінчанін. Добры камандзір, выдатны чалавек і таварыш.

Баі, баі... Было іх многа. Рабілі мы рэйды па тылах ворага, у час якіх знішчалі гітлераўскія гарнізоны, пускалі пад адхон эшалоны. Ніколі не забыць мне баёў у Лаўскіх і Старыцкіх лясах з нямецкай карнай экспедыцыяй. У Лаўскіх лясах была вялікая партызанская групіроўка, якая ахоўвалася спецыяльнымі заставамі. Адна з застаў, якую ўзначальваў партызан В. Драздовіч, прыняла няроўны бой з наступаючымі карнікамі. Амаль усе партызаны загінулі смерцю герояў. Іх бясприкладная мужнасць дазволіла арганізаваць абарону, выратавала сотні людзей.

Наш атрад удзельнічаў у вызваленні Капыля. Тут, у Капылі, мы сустрэліся з наступаючымі часцямі Савецкай Арміі. Тут я стаў салдатам 65-ай арміі генерала Батава, з якой удзельнічаў у вызваленні Мінска.

— Відаць, у вас, таварыш генерал, засталося ў Беларусі шмат баявых сяброў?

— Так, заўсёды будзе жыць у маім сэрцы любоў да людзей, з якімі я дзяліў у тыя грозныя часы і гора, і радасць, і апошні кавалачак хлеба, і апошнюю дробачку солі.

З Беларуссю, з беларускім народам, у мяне звязаны самыя дарагія ўспаміны. Там я прыняў сваё баявое хрышчэнне, там я стаў камуністам.

— Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра сваё апошняе наведванне Беларусі.

— У другі раз я ўбачыў Мінск праз дваццаць два гады. Цяжка было паверыць, што гэты горад, светлы і зялёны, з мноствам новых раёнаў, шырокімі вуліцамі, горад радасці і хараства — тое самае месца, куды мы ўварваліся 3-га ліпеня 1944 года. Упартая памяць зноў і зноў выклікала тыя жудасныя малюнкі — вуліцы, заваленыя грудамі камення і цэглы, варонкі ад бомб, пераплеценыя, пагнутыя трамвайныя рэйкі, шкілеты дамоў, лесвічныя маршы, што віселі ў паветры. І ўсё-такі горад жыў! Памятаю, у той ліпеньскі дзень схуднелыя людзі, галодныя дзеці, усе, у каго толькі хапіла сіл ісці, высыпалі на вуліцу. Яны неслі кветкі — чырвоныя макі, гваздзікі, ружы. І ўручалі іх салдатам з усмешкай, з песнямі і слязьмі радасці.

Я ішоў тады па вуліцах і думаў, колькі працы, сіл і энергіі трэба будзе ўкласці, каб вярнуць горад да жыцця. Колькі потым вось такіх разбураных гарадоў, спаленых вёсак мне давялося ўбачыць у Беларусі, і ў роднай Польшчы, праз якія пралеглі мае франтавыя дарогі. І вось, калі я быў у новым, адроджаным Мінску і слухаў расказы старых баявых сяброў пра тое, як народ аднаўляў сваю рэспубліку, якіх сіл і сродкаў, якой самаадданай працы гэта каштавала, я з гонарам расказваў і пра адроджаныя польскія гарады і вёскі.

На вялікі жаль, я не змагу прыехаць у Мінск на сёлетняе свята вызвалення. Але паверце, сябры, — сэрцам сваім я буду з вамі. Я ўяўляю сабе, як яшчэ больш папрыгажэла сталіца Беларусі. Колькі з'явілася новых дамоў, вуліц, сквераў, колькі нарадзілася новых грамадзян гэтага прыгожага гераічнага горада.

Я яшчэ раз вяртаюся ў памяці да гадоў маёй ранняй маладосці, да былых баявых таварышаў, да зямлі беларускай, на якой 25 гадоў таму назад Войска Польскае атрымала сваё першае баявое хрышчэнне пад Леніна. Я думаю пра вёскі, праз якія я прайшоў разам з савецкімі партызанамі, пра Капыль і Старыцу, дзе я два гады назад з радасцю паціснуў руку васьмідзесяцігадовага Антона Мартынавіча Берніка, які некалі даў мне рэкамендацыю ў Камуністычную партыю.

Сёння злучаныя братэрствам і дружбай, з'яднаныя сумесна пралітай крывёю, мы стаім разам на варце нашых гарадоў і вёсак, нашай зямлі, на варце вялікага сацыялістычнага лагера.

Жадаю вам, таварышы і сябры, раданага свята.

Ірэна Шадзеўская

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ“

 

# Стабілізатар вітамінаў

Зялёны корм мае ў сабе каратэнаіды, субстанцыі неабходныя для жыцця, якія адзначаюцца вялікай біялагічнай актыўнасцю. Пасля аднаго месяца часу ад моманту перапробу сена на дробны памол, астаецца знішчанай каля 70%, а зімою нават 100% гэтай неабходнай для арганізму звяроў субстанцыі.

Савецкія спецыялісты сельскай гаспадаркі апрацавалі метад атрымоўвання сантахіны, якая з'яўляецца сродкам стабілізуючым каратэнаіды. Уступнае апырсківанне зялёнай масываднiстым або алеістым растворам сантахіны дазваляе на амаль поўнае захоўванне ў сухім корме гэтых каштоўных каратэнаідаў.

(А-ка)

## Для гаспадыні

Пах тытуню доўга захоўваецца ў пакоі, нават скразняк яго не выветрывае. Каб ад яго пазбавіцца, адразу ж, як толькі пойдуць курыльшчыкі, адчыніце акно, намачыце халоднай вадой два-тры махровыя ручнікі і пакладзіце іх у пакоі ў розных месцах. Мокрыя ручнікі добра ўбіраюць пах тытуню.

*

Сырая бульба можа аказаць вам дапамогу ў перасоўванні цяжкой мэблі — кніжнай шафы, буфета, сундука, калі вы пакладзеце пад перасоўваемую мэблю ў двух-трох месцах палавінкі бульбін.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...у 1864 годзе каля Пітсбурга на полі бітвы былі знойдзены дзве незвычайныя кулі. У паветры адна з іх прабіла другую роўна ў сярэдзіне і застрала, утварыўшы крыж.

...паверхня добра абшліфаванага більярднага шара менш гладкая, чым паверхня Зямлі. Калі б яго павялічыць да размера зямнога шара, то больш роўнай і гладкай аказалася б зямная паверхня.

...крыніца «Ваконда Спрынгс» знаходзіцца ў 600 мілях ад акіяна, але вада ў ёй салёная, як у акіяне. І, як у акіяне, у ёй бываюць прылівы і адлівы.

...аднаго вядра вады дастаткова, каб 270 кв. м. пакрыць слоем туману таўшчынёй 15 м.




У пяцідзесяці мілях на поўдзень ад горада Майсар, размешчанага ў індыйскім штаце той жа назвы, пачынаецца велізарны масіў някранутых джунгляў. Гэта дзяржаўныя запаведныя лясы Каканакаце і Бегур, якія раздзелены рэчкай Кабіні.

У багатай разнастайнасці жывёльнага свету гэтых мясцін найбольшай каштоўнасцю з'яўляецца дзікі слон. У краінах Паўднёва-Усходняй Азіі слон наогул карыстаецца асобым гонарам і павагай. Тут жа гэта жывёла — не славутасць заапаркаў і звярынцаў, а перш за ўсё нястомны працаўнік, верны памочнік чалавека.

Праз джунглі нясе ён дзесяткі кілаграмаў грузу, падымае на будоўлях цяжкія бэлькі, дапамагае раскарчоўваць лес і даставаць з калодзежаў ваду. Прыручаюць сланоў у гэтых краінах, у тым ліку і ў Індыі, ужо на працягу многіх соцень гадоў. Самым распаўсюджаным спосабам іх лоўлі з'яўляецца аперацыя «кхеда».

Гэты від адлову сланоў з-за вялікіх затрат, звязаных з яго арганізацыяй, мэтазгодна выкарыстоўваюць толькі там, дзе сланы водзяцца ў вялікай колькасці. Лясы Каканакаце і Бегур акурат спрыяльныя ў гэтых адносінах. За апошнія сто год у іх было праведзена 34 «кхеды», у ходзе якіх было злоўлена 1.772 сланы. З кожным годам сланоў на волі становіцца ўсё менш і ўсё радзей праводзяцца «кхеды».

Чарговая, 35-ая па ліку «кхеда» прайшла ў студзені гэтага года пасля васьмігадовага перапынку. Як праводзіцца «кхеда»? Акружаны загоншчыкамі статак заганяецца ў лясную раку Кабіні і прыціскаецца да крутога і высокага супрацьлеглага берага, у якім ёсць толькі адзін праход — у раней падрыхтаваную пастку. Ажыццявіць гэты няхітры план, аднак, не вельмі проста. Многа тыдняў патрабуецца для таго, каб зрабіць і штучна замаскіраваць пастку, якая нагадвае невялікі ўчастак джунгляў ля ракі, акружаны шырокімі і глыбокімі канавамі, з масіўнымі варотамі, ад якіх да ракі ідзе плаўны, з нахілам тунель, збудаваны з бамбуку і галін дрэў. Для таго, каб падагнаць да гэтай пасткі статак дзікіх сланоў, праходзіць яшчэ дзён 15—20.

Звыш тысячы загоншчыкаў, шырокім кальцом ахапіўшы месца, дзе пасвяцца дзікія сланы, паступова дзень за днём звужаюць кальцо, падганяючы статак у бок пасткі. Тут патрабуецца вялікая вытрымка і пільнасць, каб не выклікаць ніякіх падазрэнняў у асцярожнай і разумнай жывёлы. Пачуўшы небяспеку, яны ўцякаюць з акружэння, змятаючы ўсё на сваім шляху.

І вось, нарэшце, настаў дзень, калі толькі рака аддзяляла статак ад пасткі. На раніцу наступнага дня быў назначан заключны, самы адказны этап палявання. На гэтае прывабнае відовішча прыехалі высокія госці, багатыя зарубежныя турысты.

Доўга ў ноч перад «кхедай» на ўзлеску не гасла святло ў брызентавай палатцы. Гэта спецыяльна створаны штаб. Адсюль па тэлефоне і радыё ішло кіраўніцтва дзеяннямі шматлікіх атрадаў загоншчыкаў. Побач з палаткай размясцілася ля кастра група загоншчыкаў. Усе яны сяляне з навакольных вёсак. Выкарыстаўшы магчымасць добра зарабіць, яны пакінулі свае дамы і палі і перасяліліся ў джунглі.

Пакуль рыхтуецца сціплая сялянская вячэра, ля кастра ідзе нетаропкая размова, вядома, аб сланах.

— Кажуць, што ў Малабары, — гаворыць адзін з загоншчыкаў, — жыў слон, якога звалі Гапаланам. Аднойчы па вузкай вуліцы яму насустрач ішоў сляпы чалавек. Гапалан уступіў яму дарогу, а потым сваім хобатам указваў сляпому шлях.

— Так, — заўважае другі, — сланы не толькі разумная, але і адданая жывёла. Шмат год таму назад у Асаме раптам памёр адзін пагоншчык. Некалькі дзён засумаваўшая жывёла нікога не падпускала да свайго сябра, пакуль сама не загінула ад гора.

Няроўныя водбліскі кастра мудрагеліста асвятляюць твары сялян. Над іх галовамі ў небе ярка свецяць зоркі, а ўлева і ўправа, губляючыся ў цемры джунгляў, уходзіць ланцужок такіх жа кастроў. Спакойна прачыналіся раніцай «кхеды» джунглі.

І раптам гучныя ўдары ў барабаны, выстралы, шум бразгалак, крыкі людзей разам разарвалі мірную цішыню раніцы і напоўнілі страшэнным шумам лес. Узляцелі перапалоханыя птушкі, шэрай маланкай прамільгнулі быстраногія лані, насцярожыліся, прыслухоўваючыся, сланы. Незразумелыя непакоячыя гаспадароў лесу гукі набліжаліся. Важак, нарэшце, падаў трубны кліч і павёў статак да ракі, дзе здавалася, яму нічога не пагражала. На беразе ракі — невялікая затрымка. Сланы, пачуўшы нядобрае, баяцца ўваходзіць у ваду і гатовы павярнуць убок. Але іх ужо насціглі спецыяльна навучаныя сланы, якія сваімі ікламі спіхаюць іх у раку, а затым па вадзе падганяюць да ўваходу ў пастку. Паляўнічыя, якія сядзяць на іх спінах, няспынна страляюць у паветра, а з берага ракі нясецца шум бразгалак і крыкі загоншчыкаў.

Калі важак уступіў у тунель, за ім паслухмяна пайшоў увесь статак. І вось вароты пасткі зачыніліся за апошнім сланом. Усяго ў пастцы аказалася 47 лясных асілкаў.

Так закончылася 35-ая «кхеда» — магчыма, апошняя ў Індыі, бо на рацэ Кабіні заканчваецца збудаванне ірыгацыйнай плаціны. Узровень вады ў рацэ паднімецца і не дазволіць больш праводзіць тут лоўлю сланоў.

**В. Байкоў**
Дэлі






Пляцоўка каля лагуны. Цемра. Карцаў асцярожна прабіраецца да стэлажаў, дзе штабель скрынь. Некалькі скрынь ссунуў, на іх накінуў брызент.

Карцаў бярэ са стэлажа вадалазны гадзіннік, запаўзае пад брызент. Паміж скрынямі шырокія шчыліны, праз якія будуць відны і пляцоўка, і лагуна, калі засвецяць пражэктары.

Колькі часу ён праляжыць тут? Відаць паўгадзіны ці гадзіну. Што б гэта не каштавала трэба высвятліць, навошта і куды паплыў Абст. Мабыць, лодкі ўжо прыйшлі. Інакш, як зразумець словы Глюка аб з'яўленні «звяроў»? Або «звяры» — гэта караблі праціўніка, супраць якіх Абст мае намер здзейсніць дыверсію?..

Мінуты цякуць, і ўсё трывожней на сэрцы. Нарастае адчуванне насоўваючайся небяспекі. Ён павінен быў нешта зрабіць і забыў... Але што менавіта?

Карцаў уздрыгвае. Ён забыў аб плыўцах!

Яшчэ паўгадзіны назад трэба было разбудзіць іх, праверыць, выдаць кожнаму прэпарат.

Трэба спяшыць, пакуль ёсць час. Страшна падумаць, што здарыцца, калі ён спозніцца.

Устаўшы на калені, ён адыходзіць паміж скрынямі.

Позна!

У гроце запалілася святло.

З тунеля выходзіць Крыстыян Галер, Вальтэр, Глюк і італьянскі афіцэр.

Усе яны каля трапа. Глядзяць у ваду. Позы іх — чаканне.

— Глядзіце! — крычыць Вальтэр.

І тут жа люстра лагуны расколваецца. З вады тарчма ўстае тупое чорнае цела. Кашалот! Ён б'е хвастом па вадзе, нырае. Ён імкнецца скрыцца пад вадой. Але невядомая сіла выпіхае яго наверх.

Так працягваецца каля мінуты. Лагуна нагадвае карыта з мыльнай вадой. У паветры карусель бялявых камякоў і брызгаў, якія іскрацца ў праменнях пражэктараў. І ў гэтым хаасе са святла і гукаў б'ецца чорны звер большы паравоза.

Вось ён крута павярнуў і паімчаўся да грады скал у другім канцы лагуны. Кашалот з усяго разгону б'е рылам у скалу, якая выступае з вады. Ён аглушаны, паранены; плямы і палосы на вадзе — гэта кроў. А кашалот усё ціснецца да камення, быццам імкнецца ўцячы ад праследвання.

Хто ж гоніць яго на скалы?

Зараз, калі звер круціцца каля скал, хваляванне ў цэнтры лагуны сціхае, і Карцаў бачыць чалавека. Плывец толькі што вынырнуў і, цягнуты буксіроўшчыкам, памалу рухаецца да кашалота.

Абст?

Так, Абст! Сёння ў яго спецыяльны буксіроўшчык. Да цела буксіроўшчыка прымацаваны кароткі серабрысты цыліндр. На тарцы цыліндра махавічкі, індуктары. У цэнтры тарца — квадрат, які свеціцца.

Прыкмеціўшы людзей, Абст падымае руку. Са скалы яму крычаць, апладзіруюць.

Абст паварочвае махавічок. Святло на панелі тасне. Кашалот перастае ўздрыгваць, быццам быў звязаны з буксіроўшчыкам, а цяпер, калі інструмент выключаны, сувязь гэтая абарвалася.

— Шэф! — трывожна крычыць рыжабароды. — Беражыся, шэф!

Папярэджанне зроблена своечасова. Кашалот плыве назад. Прыкмеціўшы людзей, ён імкнецца ў атаку.

Карцаў чакае, што Абст паспяшае выбрацца з вады. Аднак адбываецца інакш. Абст ідзе насустрач зверу. Яны хутка збліжаюцца. Кашалот так і ляціць па хвалях. Здаецца, няма сілы, якая змагла б супрацьставіцца яго лютасці. Але вось на тарцы цыліндра запалілася блакітнае святло. У той жа міг жывёліна ідзе пад ваду. Яна быццам спатыкнулася.

Амаль адначасова нырае і Абст.

Ужо некалькі мінут, як апусцела лагуна, а людзі непарушна стаяць на пляцоўцы.

— Справа зроблена, — гаворыць Глюк італьянскаму афіцэру. — Зараз шэф выжане звера на чыстую воду і вернецца. Вясёла, га? Не будзьце дурнем, пераходзьце да нас — таксама ўволю нацешыцеся!

Італьянец маўчыць.

Вальтэр ідзе да крана, падкатвае яго да лагуны. Вось ён выцягнуў шыю, нахіліўся, напружана глядзіць у ваду.

— Глюк, ідзі сюды!

Рыжабароды падыходзіць.

— Ён! — крычыць Глюк. — Хай лопнуць мае вочы, калі гэта не ён!

Глюк паспешна спускаецца па трапу.

Неўзабаве ён з'яўляецца на пляцоўцы. У руцэ ў яго... рэспіратар!

— Усплыў, — крычыць ён, — вярнуўся да гаспадара!

— У чым справа? — пытае Галер.

— Глупства, — усміхаецца Глюк. — Згубілі апарат. А цяпер, бачыце, знайшлі.

Так, гэта рэспіратар, украдзены Карцавым. Падводны тайнік быў надзейны, пакуль у лагуне не ўзнялася дзікая таўкатня. Хвалі выкінулі дыхальны апарат са шчыліны.

Карцаў моршчыцца. Як ускладнілася становішча.

— Увага! — крычыць Галер.

Абст з'явіўся з-пад вады. Ён падплывае, вылазіць па трапу. Яму дапамагаюць раздзецца, віншуюць.

Побач моўчкі стаіць італьянец.

— Ну вось, спектакль закончаны, — гаворыць Абст. — Патрэбна ацэнка спецыяліста. Вам спадабалася, лейтэнант Пела?

— Мне было шкада жывёліны, — гаворыць італьянец. — Я хачу пайсці адсюль.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЯК ВЫПЛОЧВАЮЦЬ ШКОДУ

У канцы чэрвеня ў раёне вёскі Белкі, што ляжыць у паўночна-заходняй частцы Гайнаўскага павета, прайшла градавая навальніца і многа паншчыла аўса, ільну і часткова жыта. Жыхары вёскі злажылі заяву ў ПЗУ, каб прыехалі аценіць шкоду. Прайшло некалькі тыдняў, і прыехалі прадстаўнікі ПЗУ. Сабраўся вясковы сход, а пасля пайшлі на палеткі і пачалі ацэньваць шкоду. Пачалі гаварыць, што яны дрэнна цэняць. Ашацавалі збор аўса 8—7 і 6 цэнтнераў з I гектара, а сяляне ім даказвалі, што ў нашым павеце сярэдняя норма з аднаго гектара чатырох збожжавых культур асягнула каля 14 цэнтнераў. Не памагло тое, што сяляне гаварылі, і пазней аказалася, што некаторыя атрымаюць «адшкадавання» толькі 10 злотых, а найбольшая сума была 565 злотых.

26 ліпеня прыехалі іншыя прадстаўнікі ПЗУ і аблічылі шкоды на ільне. Лён знішчаны. А яны аценілі шкоду нават менш, чым каштуе час, які патрацілі сяляне ходзячы па полі з прадстаўнікамі ПЗУ.

**Ярош**
Гайнаўскі павет

## ФОТААМАТАРЫ

Навучыцца рабіць добрыя здымкі, справа даволі складаная, але вельмі патрэбная. Фотааматары з Новага Ляўкова даволі добра ўжо авалодалі «штуку» фатаграфавання.

Настаўнік Мікалай Варанецкі і яго вучань Міхась Цялушэцкі падчас працы.

**Я. Цялушэцкі**

## ДЫСКУСІЯ НАД ДЫРЭКТЫВАМІ

Грамадскія камітэты ПАРП і партыйныя арганізацыі абмяркоўваюць ужо дырэктывы на V з'езд партыі. Партыйная арганізацыя ў грамадзе Кузніца звярнула ўвагу на недастатковую ідэйна-выхаваўчую працу сярод членаў партыі, як і на асяроддзі, у якіх яны працуюць.

У сходзе браў удзел таксама першы сакратар КП у Саколцы Іван Дзянісюк, які выступіў з даўжэйшаю прамоваю. мх

## У МІЛЕЙЧЫЦАХ

Прэзідыум ГРН у Мілейчыцах рэалізуе праект грамадскіх чынаў для ўсіх вёсак. Вартасць запланаванай грамадскай працы акрэсліваецца на суму 3.046 тыс. зл. мх

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Нядаўна я вярнуўся ў вёску. Быў у войску. Будучы яшчэ ў войску, я пісаў лісты да дзяўчыны з маёй вёскі. Яна мне вельмі падабалася і надалей таксама падабаецца. Аднак Ніна не адпісвала мне на мае лісты. Гаварылі, што яна мела сабе нарачоных і аба мне ўвогуле нічога не думала. Так я і перастаў пісаць. Калі я вярнуўся дадому, даведаўся, што Ніна не выйшла замуж і не мае ніякага нарачонага. Пасля сустрэчы з Нінай ізноў надышлі бяссонныя ночы. Не ведаю, ці аб гэтым ёй сказаць, ці не. Баюся, што яна можа смяяцца, а мне будзе тады сорамна. Бо я думаю, што калі б я ёй падабаўся, яна б тады адпісвала на мае пісьмы. І без яе цяжка мне жыць. Парай, Сэрцайка, што рабіць?

Косця
з Гайнаўшчыны

**Дарагі Косця!** І я з табой згодна, аднак памятай, што прайшло больш года. Больш розуму. І пачуцці змяняюцца таксама. Тады не падабаўся ты Ніне, якая мела вакол сябе іншых хлопцаў. Але цяпер яна асталася адна, з той ці іншай прычыны, гэта ўжо не важна. Ты павінен пры аказіі (аказію заўсёды можна знайсці) пагаварыць з Нінай. Напрыклад, калі ў вас будзе забава, пастарайся туляць з ёю, а тады ўбачыш, ці ты ёй падабаешся, ці не. Калі так, тады смела можаш аб усім прызнацца Ніне.

Жадаю поспехаў
Сэрцайка

Вёска Крыніца на Гайнаўшчыне
**фота: Ц. Я.**

## КОНСКІ ЗУБ І ВАРОНЫ

Некалькі жыхараў вёскі Скупава маюць сіласы. Для напаўнення іх сеюць конскі зуб, таму што ён дае многа зялёнай масы і кішонка з яго заўсёды ўдачная.

І вось з гэтым конскім зубам цэлая бяда. Як толькі пачне зыходзіць, нападуць вароны і з зямлі выдзяўбуць насенне, і лісточкі астаюцца. І так доўга прылятаюць, пакуль не ачысцяць поля ад гэтай расліны. І ўжо так вароны асвоіліся, што нічога не баяцца. Патаняеш у адным канцы палоскі, ляцяць у другі. Рабілі страшыдлы, вешалі бутэлькі, каб званілі, сыпалі пер'е па полі, і нічога не баяцца. А Рыгор Сіпяковіч парабіў такія птушкі з бульбы, паўтыкаў пер'і і павешаў на тычках. І думаеце, злякаліся? Не, прыляцелі. З'елі бульбу. Некаторыя ўжо і ў гэтым годзе зракліся садзіць конскі зуб. А хто пасадзіў, то вароны з'елі. Па тры разы некаторыя гаспадары пасадзілі, і ўсё надарэмна.

Толькі ў Валодзі Янюка ацалеў конскі зуб. Можа таму, што ў агародзе пасаджаны паміж будынкамі.

Гэтыя вароны горш, як стонка. Бо стонку пасыпаў азатоксам і яна згіне, а на вароны не маем ніякага лякарства.

А можа хто з чытачоў за пасрэдніцтвам «Нівы» параіць нам, як абараніць конскі зуб ад варон.

За што будзем вельмі ўдзячны.

**Валя Янцэвіч**
Скупава

## ПАСТАЎКІ ЗБОЖЖА

Закончылася жніво. Сяляне прыступаюць да малацьбы жыта. Ужо першыя тоны новага збожжа знаходзяцца ў складах ГС-аў. У грамадзе Клюковічы першы рэалізаваў абавязковыя пастаўкі збожжа Якім Ажэхоўскі з вёскі Літвінавічы. мх

## ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ

Хлеб з кляшчэлеўскай пякарні славіцца на Гайнаўшчыне. 10 кляшчэлеўскіх пекароў і 2 вучаніцы штодзённа выпякаюць каля 3000 кг смачнага хлеба. Буханкі свежага хлеба развозяць у вёскі, а таксама ў асады як: Кляшчэлі, Чаромуха, а нават у павятовую Гайнаўку.

У Чаромусе ёсць невялікая прыватная пякарня. Але яе прадукцыі не хапае для гэтай асады. Чаромуха, Дубічы Царкоўныя, Палічна і Сакі атрымоўваюць штодзённа 900 кг хлеба. (хм)

## СІЛАСЫ-СМЕТНІКІ

Да цікавага вываду дайшлі жанчыны з Ляўкова і навакольных вёсак. Яны пабачылі, што мужы іх не спяшаюцца закладаць сіласаў, дык ямы ад іх пачалі рацыянальна выкарыстоўваць. Жонкі зносяць туды смецце, якога на гаспадарцы хоць адбаўляй. Штопраўда, мужы могуць бараніцца перад аграномам, што ў іх сіласы поўныя. Дадам... поўныя смецця. **Янцал**

## ДЭНАТУРШЧЫК З ПАРЦАВА

Ён з прыемнасцю фатаграфуецца з паўлітрамі дэнатурату — атруты чалавечага арганізма. Ён таксама хваліць, што дэнатурат вельмі смачны і яму не шкодзіць. Вядома, да пары. (мх)

---

— Як хочаце! — Абст злосны. — Я думаў, што ў нас будзе гутарка. Сёння яшчэ ёсць час. Заўтра будзе позна.

— Нам няма аб чым гаварыць.

—Мінуту! — Абст звяртаецца да памочніка: — Глюк, адкуль гэты рэспіратар?

Плывец вінавата тлумачыць.

— Упэўнены, што той самы? Дайце сюды!

Глюк падае рэспіратар. Абст аглядае яго, спрабуе адкруціць вентыль балона.

— Колькі раз гаварыў, не закручвайце наглуха!

— Гэта не я, шэф...

Абст адварочваецца да другога памочніка.

Вальтэр ківае галавой:

— І я ні пры чым.

— А клапаннае пудэлка? — крычыць Абст. — Глядзіце, кранік перакрыты! Хто гэта зрабіў?

На пляцоўцы маўчанне.

— Я магу расказаць, як гэта здарылася, — працягвае Абст. — Ведайце ж, рэспіратар быў схаваны на глыбіні... Дзе ён, гэты Рэйнхельт, ці як яго там па-сапраўднаму? Гэта яго работа.

— Пачакайце, Абст, — задумліва гаворыць Галер. — Вось ужо некалькі раз чую я гэта імя... Хто ён?

— Рэйнхельт, — мармыча агент. — Выплаўлены месяцаў два назад, гаворыце вы? — І раптам крычыць: — Татуіроўка на руцэ — «Ханс»?!

— Так, — адказвае Абст.

— Згаджаецца ўсё, — ашаломлена мармыча Галер, — і татуіроўка, і дата, калі ён быў «забіты» вартаўніком, а затым з'явіўся тут. Гэта рускі!..

Паўза.

З тунеля выходзіць Марта.

— Рышэр! — крычыць Абст. — Што вы тут робіце? Вы даўно ўвайшлі?

— Толькі што... Нешта здарылася з перадатчыкам.

— Глюк, Вальтэр, хутчэй! — камандуе Абст. — Неадкладна наладзіце станцыю.

— Мне ісці з імі? — пытае Марта.

— Адпраўляйцеся да сябе.

— Так, шэф...

— Раю пайсці і вам, — звяртаецца Абст да Галера. — Не трэба, каб ён бачыў вас.

Галер таксама пакідае пляцоўку.

— Ну, вось, мы з вамі адны, — гаворыць Абст да італьянца. — Цяпер мы пагутарым.

— Што вы зрабілі з маімі таварышамі? — пытае італьянец.

— Для вас гэта нежаданыя сведкі. Я адправіў іх у лагер ваеннапалонных.

— Хлусня! — крычыць Пела. — Яны забіты!

І ён кідаецца на Абста.

Абст дакладным ударам валіць італьянца на зямлю, прыпадымае яго, зноў б'е.

— Я прымушу цябе падпарадкавацца, — цвердзіць ён у лютасці, — прымушу!..

У гэты момант Карцаў, разваліўшы скрынкі, кідаецца наперад, збівае з ног Абста і навальваецца на яго. Падаспеўшы Пела сціскае праціўніку горла. Яшчэ мінута —і Абст звязаны. Яго адносяць за стэлажы. Карцаў рыецца ў кішэнях палоннага. Вось ён выпраставаўся. У руках у яго вязка ключоў.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Znowu Max Linder'' (franc.), 27—28.VIII. ,,Inspektor Morgan'' (angl.), 29—30.VIII. ,,Lecą żurawie'' (radz.), 31.VIII—1.IX.

**Дубіны**
,,Męski piknik'' (jugosł.), ,,Sami swoi'' (polski), 31. VIII—1.IX.

**Нараўка**
,,Dywersanci'' (jugosł.), ,,Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), 28.VIII—1.IX.

**Нарва**
,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), ,,Gorące lato'' (jugosł.), 28.VIII—1.IX.

**Чыжы**
,,Bumerang'' (polski), ,,Galia'' (franc.), 28.VIII—1.IX.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Fan, Fan, Tulipan'' (fran.), ,,Głosuję na miłość'' (jugosł.), 28.VIII—1.IX.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Flip, Flap i inni'' (USA), ,,Powrót na ziemię'' (polski), 28.VIII—1.IX.

**Орля**
,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Na frontach wojny domowej'' (radz.) 28.VIII—1.IX.

**Райск**
,,Pamiętnik pani Hanki'' (polski), ,,Potem nastąpi cisza'' (polski), 28.VIII—1.IX.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Prywatna burza'' (czeski), ,,Rozwód z miłości'' (węgierski), 27—30.VIII.

**Міхалова**
,,Czarny żwir'' (NRF), 27—28.VIII. ,,Deszcz padał na szczęście'' (czeski), 29—30.VIII. ,,Smog'' (włoski), 31.VIII—1.IX.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Dwie noce jedego dnia'' (jugosł.), 27—28.VIII. ,,Pamiętnik pani doktor'' (franc.), 29—30.VIII. ,,Lekarstwo na miłość'' (polski), 31.VIII—1.IX.

**Шудзялава**
,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Marysia i Napoleon'' (polski), 28.VIII—1.IX.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Hatari'' (USA), ,,Daleka jest droga'' (polski), 28.VIII—1.IX.

**Новы Двор**
,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), ,,Jak się masz Vero'' (węgierski) 31.VIII—1.IX.

**Ліпск**
,,Bumerang'' (polski), ,,Gra bez reguł'' (czeski) 31.VIII—1.IX.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727

